Адначасна вырашаліся пытаньні з нацыянальным войскам, зь межамі, мытнай службай, стварэньнем амбасадаў за мяжой, адчыняліся беларускія клясы і школы, рыхтаваліся беларускія падручнікі і кнігі. Мэханізм стварэньня беларускай дзяржавы пачаў працаваць, буксуючы, аднак, на кожным кроку.

Пытаньне аб новай уладзе ў новай дзяржаве станавілася ўсё больш надзённым. Стары Вярхоўны Савет адмовіўся яго вырашаць. Тады *Фронт* выбраў акружны шлях, вельмі цяжкі, працаёмкі і даволі рызыкоўны, бо прававая аснова ў дзяржаве была хісткай. Але вынікова змагацца можна было толькі прававымі спосабамі.

*Апазыцыя БНФ* стварае праект закона „Аб рэфэрэндуме". Утварылася стандартная сытуацыя: парляманцкая намэнклятурная бальшыня напісала і супрацьпаставіла паралельны праект. Апазыцыйны праект галасаваньнем адкінулі, а намэнклятурны (з папраўкамі і з палажэньнямі Апазыцыі) прынялі.

Адразу ж (у канцы 1991г.) *Фронт* аб'явіў аб зборы подпісаў за рэфэрэндум аб новых выбарах. ***Праз два месяцы было сабрана 420 тысяч подпісаў*** (па закону неабходна было 300 тысячаў). Подпісы прыняла і зацьвердзіла Камісія па рэфэрэндуме, што абазначала рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндума. Вярхоўны Савет, згодна закону, павінен быў прызначыць дату ўсенароднага галасаваньня.

Шэсьць месяцаў Вярхоўны Савет не зьбіраў сэсію, адмаўляўся прызначаць дату і разглядаць гэтае пытаньне. Актыўную пазыцыю супраць рэфэрэндума заняў сьпікер **С.Шушкевіч** *у паразуменьні з прэм'ерам* **В.Кебічам, усім урадам і Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савета.**

У кастрычніку 1992 года адбылася беспрэцэдэнтная расправа бальшыні Вярхоўнага Савета над законнасьцю і воляй людзей. Рэфэрэндум быў забаронены. Спрацавалі ня толькі палітычныя, але і псыхалягічныя чыньнікі. Выявілася, што ніхто, акрамя дэпутатаў *Народнага Фронту*, не хацеў разьвітацца з дэпутацтвам у старым Вярхоўным Савеце (бо меркавалі, што паўторна іх ня выбяруць). Камуністы, ветэраны, маргіналы, незалежныя дэпутаты і ўсе дэмакраты з Дэмакратычнага Клюбу галасавалі за растаптаньне законнасьці і за незаконную забарону рэфэрэндума. *Дэпутаты ад БНФ* засталіся адны са сваімі паўмільёна подпісамі і сваім народам. Народ маўчаў.

* * *

З гледзішча палітычных, фармальных ацэнак, забарона рэфэрэндума — гэта быў подлы ўдар па Фронту, незаконная ўзурпацыя ўлады намэнклятурай. Апоры на ўладу ў Фронта не было, а апора на нізы не спрацавала.

З гэтага часу, напачатку непрыкметна, а потым усё больш відавочна, Беларусь стала падаць у яму. Пачаўся наступ унутранай рэакцыі і, што самае кепскае, рэакцыі зьнешняй — рускага імпэрыялізму.

Напалоханая падрыхтоўкай да рэфэрэндума аб уладзе беларуская намэнклятура прывычна кінулася да Масквы. Кебіч уводзіць функцыянераў савецкага КГБ у структуры беларускага ўраду, спрыяе стварэньню і фінансаваньню арганізацыяў антыбеларускай 5-й калёны, будуе эканамічныя дачыненьні краіны з арыентацыяй на фінансава-прамысловыя групы і нафтавую мафію Расеі, падтрымлівае і прапагандуе маскоўскую палітыку аб стварэньні адзінай беларуска-расейскай грашовай сістэмы, так званай „калектыўнай бясьпекі" і расейска-беларускай дзяржаўнай „інтэграцыі". Над беларускай незалежнасьцю навісла рэальная пагроза, а рабаваньне народа, дзяржавы, карупцыя набылі адкрытыя і цынічныя формы.

Намэнклятурная бальшыня Вярхоўнага Савета падтрымала гэтую палітыку Кебіча і пачала рыхтаваць увядзеньне прэзыдэнцтва з мэтай, якая была відавочнай: канцэнтрацыя і ўмацаваньне сваёй улады.

У гэтай сытуацыі *Беларускі Народны Фронт* выступіў супраць увядзеньня прэзыдэнцтва і паставіў перад сабой выразную палітычную задачу — адстаўка ўрада Кебіча.

У Вярхоўным Савеце, пасьля структурнага аб'яднаньня *„намэнклятурных" дэпутатаў вакол ураду* Кебіча, *Апазыцыі БНФ* стала працаваць вельмі цяжка. Пачалася блакіроўка ўсяго, што зыходзіла ад Фронту. Тады галоўны цяжар палітычнае працы быў перанесены ў выбарчыя акругі. Дэпутаты БНФ разам зь іншымі сябрамі Фронту аб'ехалі ўсю Беларусь, сотні гарадоў і мястэчак, мінаючы шалёныя перашкоды з боку ўладаў, сустрэліся з тысячамі людзей, пазнаёмілі іх з сваімі поглядамі, працай і крытыкай ураду. Да пачатку 1994г. лёс прэм'ера Кебіча (як палітыка) у грамадзкай сьвядомасьці практычна ўжо быў вырашаны.

Такая палітыка была правільнай у тых умовах. Намэнклятурная бальшыня Вярхоўнага Савета імкнулася напралом увесьці прэзыдэнцкую сістэму пад Кебіча. Гэта ёй груба, з цяжкасьцю, з парушэньнем закона ўдалося зрабіць. Аднак на выбарах Кебіч трапляў бы ў кепскі стан. Вялікая колькасьць людзей савецкай сьвядомасьці (на якіх ён спадзяваўся) за яго б ужо не галасавала, а аддала б галасы за альтэрнатыву (абы не за Кебіча). Альтэрнатывай быў страшнаваты для савецкага чалавека *Народны Фронт*. І тым ня менш выбар шмат каму з „савецкіх" прыйшлося б рабіць не ў карысьць Кебіча.

Але сытуацыя зьмянілася, калі зьявіўся новы, невядомы раней кандыдат на прэзыдэнта, які крытыкаваў Кебіча з пазыцыяў савецкага чалавека і адлюстроўваў савецкія каштоўнасьці. Гэта тое, што патрэбна было савецкаму электарату, які ўяўляў большасьць у Беларусі. Савецкі выбар вырашыў справу.

### *СУПРАЦІЎЛЕНЬНЕ*

Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у 1994 годзе ўся ўлада ў Беларусі поўнасьцю трапіла ў рукі антыбеларускіх сілаў, а палітычная ініцыятыва — да прэзыдэнта. Імкненьне да дыктатуры пачало выяўляцца асабліва агрэсіўна з пачатку 1995г., калі на абмеркаваньне ў Вярхоўны Савет былі прадстаўлены пытаньні сумна вядомага лукашэнкаўскага рэфэрэндуму. Антыбеларуская змова была відавочная. Адкрыта ігнараваўся закон. Довады незаконнасьці пастаноўкі на галасаваньне прапанаваных пытаньняў рэфэрэндуму не прымаліся пад увагу. Намэнклятура 12-га Вярхоўнага Савета, ўсьлед за прэзыдэнтам, ішла напралом да зьнішчэньня беларускай дзяржавы. Усе законныя, маральныя, проста людзкія магчымасьці спыніць нацыянальную ганьбу *Апазыцыяй БНФ* былі вычарпаныя. І тады *дэпутаты Фронта* зрабілі *адчайны і нечаканы для дэпутацкай большасьці, але* добра прадуманы маральны ўчынак: *у знак пратэсту супраць парляманцкага беззаконьня і безадказнасьці перад нацыяй, яны аб'явілі парляманцкую галадоўку проста ў зале перад трыбунай для выступленьняў, гледзячы ў вочы астатнім дэпутатам.* Дарэчы, менавіта ў гэтым быў маральна-псыхалягічны сэнс учынку: арганізаваць галадоўку менавіта ў парляманцкай залі ў час сэсіі, перад вачыма калег-дэпутатаў, каб узбудзіць у іх рахунак сумленьня. (Некаторыя някемлівыя людзі потым не разумелі гэтага, пыталіся, а чаму не на вуліцы.)

Учынак франтаўскіх дэпутатаў моцна паўплываў на частку тых, што сядзелі ў залі. Пасьля нядоўгай дыскусіі пачалося

галасаваньне. Усе не адпаведныя закону пытаньні рэфэрэндуму не набралі патрэбнай колькасьці галасоў. Гэта была ўжо перамога, якую, аднак, трэба было замацаваць прыцягненьнем усеагульнай увагі да парляманцкага беззаконьня. Галадоўка працягвалася. Ноччу па загаду Лукашэнкі ў парлямант былі ўведзеныя войскі (600 салдат і афіцэраў) і спэцгрупа КГБ „Альфа". *Дэпутаты Фронта* былі жорстка зьбітыя і вывезеныя з парляманту.

На раніцы па заяве дэпутатаў *Апазыцыі БНФ* Генеральны пракурор узбудзіў крымінальную справу па факту вайсковага нападзеньня на дэпутатаў у парляманце. Прэзыдыюм Вярхоўнага Савета прыняў рашэньне тэрмінова разглядзець на сэсіі пытаньне аб адказнасьці за напад на дэпутатаў у парляманце. Але праз дзьве гадзіны, убачыўшы, што парлямант па загаду Лукашэнкі акружаны міліцыяй і ўнутранымі войскамі, якія прапускалі ў будынак парляманту толькі ляяльных дэпутатаў, сьпікер парляманту і члены Прэзыдыюма адмовіліся ад ажыцьцяўленьня свайго намеру. Гэта вырашыла ўсё. Шанс спыніць дыктатуру ў самым пачатку быў страчаны. Дарога да перавароту была адчыненая.

* * *

У 1995 годзе перад сьцяной грубай антыбеларускай палітыкі *Народны Фронт* зноў зьвярнуўся да нацыянальнай ідэі як асноўнага кансалідуючага фактару грамадзтва ў змаганьні за людзкія правы і народныя інтарэсы. Калі зьневажаюць і зьнішчаюць усё, што беларускае, то беларусы павінны трымацца і аб'ядноўвацца на ўсім, што беларускае: *на беларускай мове, на беларускім сьцягу, на беларускай дзяржаве, на беларускай школе, на беларускай культуры, на беларускай уласнасьці і г.д.*

Мэтанакіраванае ўсьведамленьне нацыянальнай ідэі дапамагло скансалідавацца актыўнай частцы грамадзтва і моладзі ў цяжкія 1996-1997 гады, калі ўзьнікла рэальная пагроза расейскай анэксіі Беларусі. Менавіта дзякуючы нацыянальнай салідарнасьці, удалося тады стрымаць разбуральныя пляны „інтэгратараў".

У жніўні 1995 года *Фронт* ставіць пытаньне аб неабходнасьці адстаўкі Лукашэнкі праз імпічмант і аб падрыхтоўцы антылукашэнкаўскай апазыцыі па адзіным крытэрыі — адносны да Лукашэнкі (да імпічманту Лукашэнкі).

Праца над арганізацыяй такога салідарнага змаганьня вялася на працягу ўсёй першай паловы 1996 года. Аднак асноўны цяжар барацьбы з рэжымам і ахвяры *Народнаму Фронту* прышлося ўзяць на сябе. Антылукашэнкаўская апазыцыя канчаткова сфармавалася толькі восеньню 1996г. Справа імпічманту разьвівалася даволі пасьлядоўна і юрыдычна не выклікала сумненьняў. Але ў лістападзе была ганебна правалена ў выніку здрады і бяспрынцыпнасьці старшыні Канстытуцыйнага Суда і старшыні Вярхоўнага Савета. *Народны Фронт* у гэты час ужо ня меў сваіх прадстаўнікоў у парляманце і ня мог прадухіліць пераварот і няправільныя паводзіны дэпутатаў ў Вярхоўным Савеце.

Аднак пасьля лістападаўскага перавароту *Народны Фронт*, і асабліва беларуская моладзь, не разгубіліся і аказалі энергічнае, яраснае, ахвярнае супраціўленьне чарговым спробам інтэграцыйнай анэксіі Беларусі. Вынікі гэтай барацьбы не былі дарэмнымі. Змаганьне з акупацыйным рэжымам і з „інтэграцыяй", а таксама здрада ў Вярхоўным Савеце і распад „антылукашэнкаўскай апазыцыі", падказала новую салідарную форму беларускай барацьбы, заснаванай на нацыянальнай ідэі — ***Вызвольны рух***.

Аб'яднаўчы крытэрый вызвольнага руху ўжо іншы, чым у „антылукашэнкаўскай апазыцыі". Ён мае агульнанацыянальны сэнс і вызначаецца адносінамі да імпэрскай Расеі, да яе „інтэгратарскай" палітыкі. У становішчы ўнутранай акупацыі Беларусі прамаскоўскім рэжымам і прамой пагрозы яе незалежнасьці з боку Расеі, крытэрый вызначаецца, перш за ўсё, па дачыненьнях да аб'екта небясьпекі, а не да суб'екта незалежнасьці. Гэтак жа, як у этнічнай сьвядомасьці па лініі „свой — чужы". Мала прызнаваць „сваіх", трэба аддзяляць сябе ад „чужых". Калі ўсе „свае", то і этнаса не існуе. Мала выступаць за незалежнасьць і за дзяржаву Беларусь (і Ціцянкоў за Беларусь). Калі Расейская палітыка пагражае Беларусі, то трэба фармаваць пазыцыю па дачыненьнях да пагрозы. Інакш можа стацца савецкі ідыятызм у галаве: „Мы за незалежную Беларусь і за інтэграцыю з дэмакратычнай Расеяй."

Ніякіх саюзаў, ніякіх сумесных дачыненьняў з Расеяй — вось пазыцыя вызвольнага руху. Расея ёсьць натуральны, спрадвечны вораг Беларусі ўжо амаль тысячу гадоў. Не зразумеўшы і не ўсьвядоміўшы гэта, ніякай незалежнасьці, ніякай незалежнай дзяржавы беларусы мець ня будуць.

У асноўным дакуманце *V-га зьезду БНФ* (1997г.) пра вызвольны рух сказана наступным чынам:

*„Беларускі Народны Фронт — зьява шырэйшая за звычайную палітычную партыю. Мы — нацыянальна-вызвольны рух, галоўны сёньня гарант незалежнасьці Беларусі, і мы мусім выкарыстаць шанец ператварыць барацьбу з дыктатарам у барацьбу за незалежнасьць і адраджэньне Бацькаўшчыны... Фронт, ягоныя сябры і ягоныя структуры павінны стаць жыцьцядзейнай у любых умовах нацыянальна-вызвольнай сілай, вакол якой здольныя згуртавацца ўсе, хто стаіць на пазыцыі: „Ніякіх інтэграцыйных гульняў з Расеяй" і ня йдзе на ўгоду з дыктатарскім рэжымам... Неабходна змагацца з дыктатурай так, каб гэтую барацьбу ня выкарыстала ў сваіх інтарэсах імпэрская Расея. Для гэтага беларускае грамадзтва з аб'екту чужых маніпуляцыяў мусіць ператварыцца ў згуртаваны нацыянальнай ідэяй і надзелены палітычнай воляй суб'ект, зь якім змушаны будзе лічыцца нават імпэрыялістычны драпежнік."*

На гэтым стаім. З гэтым і пераможам.

### *ВЫСНОВЫ*

*1.* Падсумоўваючы сказанае, мусім адзначыць, што зьяўленьне нацыянальна-адраджэнскага руху — *Беларускі Народны Фронт* — падчас распаду таталітарнай імпэрыі, якая праводзіла асімілятарскую палітыку, сьведчыць аб жыцьцёвасьці Беларускай Нацыі, аб тым, што 70 гадоў уціску і генацыду ня зьнішчылі яе нацыянальнай сілы і народнага духу.

*2.* Арганізацыя *Беларускага Народнага Фронту* абазначае падзею вялікага гістарычнага значэньня. Гэта ёсьць маніфэстацыя беларускай нацыянальнай ідэі, працяг ідэалаў і вялікай справы *Беларускай Народнай Рэспублікі*, другі па значэньні вызвольны акт пасьля аб'яўленьня незалежнасьці *БНР*.

*3.* Няшчасьцем беларускага нацыянальна-вызвольнага руху і беларускага адраджэньня пачатку і першай паловы XX стагоддзя было яго спалучэньне з сацыялізмам, з сацыялістычнымі ідэямі і левымі палітычнымі сіламі. Левыя сілы ўзначалілі нацыянальна-вызвольны рух. Гэта прывяло да трагедыі нацыі ў XX стагоддзі. Зьяўленьне *Беларускага Народнага Фронту* абазначае гістарычны перагалом у нацыянальнай пэрспэктыве. Новае паўторнае беларускае

адраджэньне канца XX стагоддзя, актыўны пачатак якога сымвалізуе і прадстаўляе *БНФ*, выяўляе правы цэнтрызм, змагаецца з сацыялізмам і грунтуецца на традыцыях нацыянальнага вопыту, на кансэрватыўных каштоўнасьцях і на прынцыпах хрысьціянскай дэмакратыі.

*4*. Дзесяць гадоў палітычнае дзейнасьці і барацьбы *Беларускага Народнага Фронту* пераканаўча засьведчылі ўнікальную заслугу Фронта ў здабыцьці незалежнасьці і суверэнітэту Беларусі.

*5*. Змаганьне *Фронта* за адкрыцьцё праўды пра *Чарнобыль*, за эканамічныя рэформы, заканадаўчая дзейнасьць, арганізацыя барацьбы з антыбеларускім рэжымам, з дыктатурай і рускім імпэрыялізмам, за разьвіцьцё беларускай культуры, асьветы, навукі і школьніцтва прадыктавана было ўсьведамленьнем нацыянальных інтарэсаў Беларускага Народа і дабра беларускай дзяржавы.

*6*. *Беларускі Народны Фронт* быў і застаецца ініцыятарам змаганьня за свабоду, незалежнасьць, волю і дэмакратыю ў Беларусі. Ён ёсьць генератарам стваральных ідэяў, пагрунтаваных на правах чалавека і інтарэсах Беларускай нацыі.

*7*. Дзейнасьць і вынікі дзейнасьці *БНФ* адлюстравалі стан і ўзровень сьвядомасьці актыўнай нацыянальна-занепакоенай часткі беларускага народа.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
*16 кастрычніка 1998г., Нью-Ёрк*

# ХРАНАЛЁГІЯ ПАРУШЭНЬНЯЎ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА НА БЕЛАРУСІ (1998)

*(Менскі Цэнтр у абарону правоў чалавека „Вясна-96")*

### *КАСТРЫЧНІК*

*17 кастрычніка Цнянская Рада БНФ* правяла пікет на плошчы Якуба Коласа ў Менску. Мэта пікету — прыцягненьне ўвагі грамадзкасьці да парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі, а таксама — аказаньне маральнай падтрымкі палітзьняволеным.

***17 кастрычніка на беларуска-украінскай мяжы беларускія мытнікі і супрацоўнікі КДБ канфіскавалі дзьве тысячы асобнікаў „Беларускіх Ведамасьцяў", якія выдае за мяжой старшыня БНФ „Адраджэньне" Зянон Пазьняк. У гэтым годзе канфіскацыя адбываецца ўжо другі раз.***

*У ноч з 17 на 18 кастрычніка на асьвятляльнай мачце менскага стадыёна „Дынама" зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг.*

*19 кастрычніка ў Менску* на плошчы Якуба Коласа адбыўся пікет, прысьвечаны ***10-м угодкам стварэньня БНФ „Адраджэньне"***.

*19 кастрычніка* старшыня гомельскай арганізацыі Беларускага Гельсінскага камітэту ***Яўген Мурашка*** правёў пікет каля гомельскага гарвыканкаму. Ён трымаў у руках плякат: *„Злачынная тая ўлада, якая парушае правы сваіх грамадзянаў."* За гэты пікет ён быў аштрафаваны на 7 мільёнаў рублёў.

*21 кастрычніка* **начальнік аховы Менскага Аўтамабільнага завода з двума ахоўнікамі** затрымалі ў прахадной актывістаў *Свабоднага прафсаюза МАЗа* ***М. Карповіча, М. Марыніча*** і ***Г. Хазана***, якія несьлі рабочым матэрыялы паседжаньня заводскага *Савета Свабоднага прафсаюза*. Ахова пры затрыманьні ўжыла фізічную сілу. У гэты ж дзень старшыня Савета Свабоднага прафсаюза МАЗа зьвярнуўся да пракурора Заводзкага раёну з хадайніцтвам аб узбуджэньні крымінальных справаў у адносінах ахоўнікаў, якія дапусьцілі супрацьпраўныя дзеяньні.

***22 кастрычніка на плошчы Якуба Коласа ў Менску адбыўся пікет у абарону беларускай мовы.***

*23 кастрычніка* актывісты Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў у межах ініцыятывы *„Свабоднае слова ў прамы эфір"* правялі чарговы пікет у раёне станцыі мэтро „Пушкінская".

*25 кастрычніка ў Менску* адбыўся ўстаноўчы зьезд новай грамадзкай арганізацыі — *„Беларускай асацыяцыі вязьняў рэжыму першага прэзыдэнта"*.

*28 кастрычніка* галоўны партыйны функцыянер КПБ намесьнік старшыні Менскага гарвыканкама **В. Чыкін** забараніў рабочым МАЗа правядзеньне мітынгу пратэсту супраць жабрацкай зарплаты (у памерах 40 даляраў ЗША па рынычным курсе).

*30 кастрычніка адзначаўся Сусьветны дзень абароны палітвязьняў.*

*30 кастрычніка, Менск. У мікрараёне Ўсход* сябры *БНФ* наладзілі пікет, прысьвечаны падзеям *1988 года*, калі быў наладжаны першы масавы мітынг з нагоды нацыянальнага сьвята ***„Дзяды"***. Тады на мітынгуючых напала міліцыя і ўнутраныя войскі, ужывалі газ.

У пікеце прымалі ўдзел актывісты *Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"* і *Праваабарончага цэнтру „Вясна-96"*. Пікетчыкі трымалі плякаты: *„Вясна-96" супраць палітычных рэпрэсіяў", „Свабоду палітвязьням"*, а таксама раздавалі людзям бюлетэні *„Права на волю"*.

*30-31 кастрычніка*, напярэдадні ***Дня памінаньня продкаў „Дзяды"***, актывісты *БНФ „Адраджэньне"* усклалі кветкі ў месцах масавага расстрэлу грамадзянаў падчас сталінскіх рэпрэсіяў — менскіх парках ***Лошыца*** і ***Лесе Ваньковіча*** *(„Чалюскінцаў")*.

### *ЛІСТАПАД*

*У ноч на 1 лістапада* абрабавалі офіс рэдакцыі незалежнай газэты *„Навіны"* (да забароны афіцыйнымі ўладамі 24 лістапада 1997г. — газэта *„Свабода")*. Невядомыя праз вакно залезьлі ў памяшканьне рэдакцыі, якое знаходзіцца на першым паверсе жылога дома па вул. Зьмітрака Бядулі. Рабаўнікі дзейнічалі прафэсійна. Усе сучасныя кампутары былі дэмантаваныя ў ванным пакоі. Скралі дыскі з памяцьцю і платы працэсара. Зьнішчаны архіў газэты, базы дадзеных, 2000 фотаздымкаў, якія знаходзіліся ў памяці кампутараў. База дадзеных назапашвалася восем гадоў, аднавіць яе практычна немагчыма. З рэдакцыі вынесьлі таксама факс і каляровы прынтар. Выдавец газэты ***Павал Жук*** упэўнены, што гэтае здарэньне — *вынік дзейнасьці спэцслужбаў напярэдадні масавых акцыяў пратэсту.* Рэдактар газэты *„Навіны"* ***Ігар Гермянчук*** падкрэсьліў, што „газэта будзе выходзіць ня гледзячы ні на што". Сьледства па справе вядуць супрацоўнікі Партызанскага РАУСу Менска.

*1 лістапада Беларускі Народны Фронт* правёў у Менску традыцыйныя шэсьце і мітынг, прысьвечаныя ***Дню памінаньня продкаў „Дзяды"***. У калёне, якая распачала свой шлях ад плошчы Якуба Коласа, было 2500 - 3000 чалавек. У *Курапатах*, на месцы масавых расстрэлаў ахвяраў сталінізму,

адбыўся жалобны мітынг, які адкрыў і вёў намесьнік старшыні *Беларускага Народнага Фронту* ***Юрась Беленькі.***

*1 лістапада ў Наваполацку* ініцыятыўнай групай сяброў мясцовай *Рады БНФ „Адраджэньне"* быў наладжаны пікет супраць зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва Беларусі. Улады не дазволілі правесьці пікет у цэнтры гораду, таму пікет адбыўся ў парку культуры і адпачынку Наваполацка.

*2 лістапада* магілёўскія прадпрымальнікі правялі аднадзённы страйк у знак пратэсту супраць палітыкі ўціску, якую праводзяць гарадзкія ўлады ў адносінах да гандляроў на рынку. Над пустымі прылаўкамі на магілёўскіх рынках былі вывешаныя плякаты: *„Выбачайце, у нас страйк"*. Супрацоўнікі міліцыі патрабавалі зьняць плякаты, пагражаючы штрафамі „за правядзеньне несанкцыянаванага пікету". На адкрытых сходах *Свабоднага прафсаюзу прыватных прадпрыймальнікаў*, якія праходзілі ў гэты дзень на „Прыдняпроўскім" і „Прывакзальным" рынках, прадпымальнікі выказалі рашучасьць адстойваць свае правы. Пасьля правядзеньня сходу на „Прывакзальным" рынку былі спробы затрымаць прадстаўніка магілёўскай абласной арганізацыі *Свабоднага прафсаюзу* ***Сяргея Абадоўскага***, але супрацоўнікі міліцыі, убачыўшы абурэньне людзей, адпусьцілі прадпрымальніка.

*2 лістапада* па ініцыятыве незалежнай газэты *„Наша Ніва"* была праведзеная акцыя *„Дзень мовы"*. Акцыя накіраваная ***на пашырэньне сфэры ўжываньня роднай мовы*** і ***супраць абмежаваньня правоў беларусаў***. У гэты дзень усім, хто неабыякавы да лёсу беларускай мовы, прапаноўвалася размаўляць на ёй ня толькі дома, але і ў грамадзкіх месцах.

*3-га лістапада ў Салігорску* афіцыйны прафсаюз аб'яднаньня „Беларуськалій" вывеў на вуліцы 6 тысяч шахцёраў. На гарадзкім стадыёне адбыўся мітынг, на якім рабочыя патрабавалі ад ураду павышэньня заробкаў і пенсіяў адпаведна росту цэнаў.

*4 лістапада ў Салігорску* адбыўся мітынг шахцёраў, арганізаваны *Незалежным прафсаюзам*, прысьвечаны абароне правоў працоўных. У мітынгу ўдзельнічала больш за 3 тысячы чалавек. Прафсаюз гарнякоў чакае ад ураду вырашэньня шахцёрскіх праблемаў да 1 сьнежня. У адваротным выпадку *Незалежны прафсаюз* зьбіраецца абвясьціць у Салігорску перадстрайкавае становішча.

*4-5 лістапада ў Гародні* спыніўся гандаль на абодвух рэчавых рынках — „Цэнтральным" і „Паўднёвым". Акцыя пратэсту была праведзеная ў знак салідарнасьці з працоўным рухам.

*4-5 лістапада* страйкаваў рынак у *Слоніме*.

*5 лістапада ў Мастах* быў праведзены мітынг у абарону правоў працоўных.

*5 лістапада* ў чарговы раз **Магілёўскі гарвыканкам** забараніў *Свабоднаму прафсаюзу* правядзеньне дэманстрацыі з эканамічнымі патрабаваньнямі. Потым правядзеньне мітынгу дазволілі ў бязьлюднай частцы горада.

На пачатку лістапада **Берасьцейскі гарвыканкам** прыняў рашэньне аб тым, што любыя масавыя мерапрыемствы можна праводзіць толькі ў адным месцы — на стадыёне „Будаўнік", які знаходзіцца на ўскрайку горада.

*5 лістапада* большасьць прадпрымальнікаў, якія гандлююць на менскім стадыёне „Дынама", ня выйшлі на працу. Ініцыятыва сыходзіла ад Рэспубліканскага прафсаюзу работнікаў кааператываў, малых прадпрыемстваў ды іншых формаў прадпрымальніцтва „Садружнасьць". Прафсаюз заклікаў падтрымаць шэсьце і мітынг рабочых 5 лістапада. На заклік прафсаюза адгукнуліся прадпрымальнікі іншых рынкаў сталіцы — „Чэрвеньскага" і „Ждановічы".

*5 лістапада ў Менску* каля ст. мэтро *„Трактарны завод"* адбыўся санкцыянаваны мітынг, які быў арганізаваны *Свабодным прафсаюзам* ***(СПБ)***. Мітынг праводзіўся супраць зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва Беларусі, за павышэньне заробкаў працоўных. У акцыі ўзялі ўдзел каля 2 тысячаў чалавек. Удзельнікі прынялі рэзалюцыю. Пасьля мітынгу каля 500 чалавек накіраваліся да рэзыдэнцыі прэзыдэнта, каб перадаць рэзалюцыію мітынгу. Удзельнікі несьлі *бел-чырвона-белыя сьцягі, сьцягі Свабоднага прафсаюзу* і лёзунгі: *„Зарплату!", „Нас усіх давялі!".*

Адразу пасьля заканчэньня шэсьця былі затрыманыя *10 чалавек*: ***Віктар Іввашкевіч*** *(заяўляльнік акцыі)*, ***Сяргей Мацкойць*** *(рабочы-будаўнік)*, ***Алена Лазарчык*** *(жонка С. Мацкойця)*, ***Мікола Раманаў*** *(рабочы Менскага аўтазаводу)*, ***Вадзім Канапацкі*** *(назіральнік Праваабарончага цэнтру „Вясна-96")*, ***Юрась Касьцяневіч (непаўналетні)***, ***Павел Петрашкевіч (непаўналетні)***, ***Цімафей Дранчук (непаўналетні)***, ***Павел Скрабец*** *(вадзіцель МАЗу)*, ***Яўген Скочка.***

*Раніцай 6 лістапада* заяўляльніцы мітынгу ***Марыі Аліевай*** і ***яе дачцы***, а таксама журналістцы ***Ірыне Жыхар*** супрацоўнікі міліцыі ўручылі судовыя позвы. У Партызанскім судзе Менска ў гэты дзень адбыліся судовыя працэсы над затрыманымі. Апроч таго, у будынку суда быў затрыманы журналіст ***Валеры Шчукін***. Тром затрыманым (*А. Лазарчык, І. Жыхар, М. Аліевай*) суд вынес папярэджаньне. Астатнім судовыя працэсы былі перанесеныя на 12, 16, 18 лістапада.

*У ноч на 7 лістапада ў Жодзіне* ўзарвалі помнік У. Леніну. Выбухам помніку адарвала галаву.

*7 лістапада ў Берасьці* падчас камуністычнага мітынгу на плошчы каля помніка Леніну зьявіліся сябры берасьцейскай філіі *Маладога Фронту* (пяць чалавек). Яны разгарнулі плякаты: *„Віншуем са сьвятам ахвяраў і катаў"*. Апрача гэтага маладафронтаўцы прынесьлі да помніка Леніну мех цукру, да якога прымацавалі плякат: *„Цукар на халяву!"* Яны прапаноўвалі пэнсіянерам бясплатны цукар. Але пакарыстацца ім ніхто не пасьпеў, бо маладафронтаўцамі зацікавілася міліцыя, якая запатрабавала ад удзельнікаў акцыі пашпарты. „Вы парушаеце грамадзкі парадак!" — заявіў супрацоўнік міліцыі. „Мы толькі хацелі дапамагчы старым людзям,"— адказаў адзін з удзельнікаў акцыі рабочы ***Сяргей Грынь.***

*7 лістапада* у суботу на кватэру старшыні *Праваабарончага цэнтру „Вясна-96"* ***А. Бяляцкага*** прыйшлі супрацоўнікі РАУС Партызанскага раёну Менска, якія абвінавацілі яго ва ўдзеле у несанкцыянаваным шэсьці працоўных 5-га лістапада. А. Бяляцкі атрымаў позву ў суд Партызанскага раёну на 9-га лістапада. На судзе у якасьці сьведкаў выступалі супрацоўнікі Партызанскага РАУСу **Скурат Віктар Вацлававіч і Лявіцкі Сяргей Рыгоравіч**. Яны засьведчылі, што А. Бяляцкі ішоў у калёне дэманстрантаў і „выкрыкваў нешта пра зарплату". Суддзя **М. А.Трубнікаў** абвінаваціў А.Бяляцкага ў парушэньні артыкула 167, 1, частка 2 Кодэксу аб адміністрацыйных парушэньнях і вынес яму папярэджаньне. ((На самай справе А. Бяляцкі прысутнічаў на мітынгу ў якасьці назіральніка. Прысутнасьць назіральнікаў на акцыі абумоўленая Статутам Праваабарончага цэнтру, паводле якога, асноўнай задачай Цэнтру зьяўляецца „вывучэньне стану грамадзянскай супольнасьці і прававой абароны ў Менску" )

*10 лістапада ў Менску на плошчы Якуба Коласа* адбыўся пікет. Асаблівую ўвагу міліцыі і людзей прыцыягнуў плякат, які трымалі беларускія рок-музыкі: *„Дыктатура — г...о!"* Плякат не спадабаўся міліцыі, якая папярэдзіла пікетоўшчыкаў, што на ім напісанае нецэнзурнае слова. На

запыт музыкаў міліцыя не ўдакладніла, якое з двух словаў, на іх думку, зьяўляецца нецэнзурным.

*12 лістапада ў цэнтры Менска* (на вуліцы Інтэрнацыянальнай каля Акадэміі музыкі) *ПЦ „Вясна-96"* наладзіў пікет у абарону грамадзянскіх правоў. Пікетоўшчыкі трымалі ў руках партрэты палітвязьняў, а таксама плякаты *„Беларусь народжаная быць вольнай", „Свабоду палітвязьням, сябрам БНФ „Адраджэньне" У. Плешчанку, А. Шыдлоўскаму".* На адным з плякатаў быў намаляваны чырвоны бот, які груба топча Ўсеагульную дэклярацыю правоў чалавека.

*12 лістапада* ў судзе Партызанскага раёну Менска судзілі вадзіцеля Менскага Аўтазавода ***Мікалая Раманава*** — аднаго з удзельнікаў мітынгу, наладжанага *Свабодным прафсаюзам* 5 лістапада. Суддзя **Мікалай Трубнікаў**, кіруючыся паказаньнямі сьведкаў — супрацоўнікаў міліцыі, вынес рашэньне: трое сутак адміністрацыйнага арышту.

*16 лістапада* ў судзе Партызанскага раёну Менска адбыўся суд над удзельнікам прафсаюзнага мітынгу 5 лістапада рабочым-будаўнікам ***Сяргеем Мацкойцам*** (суддзя **Мікалай Трубнікаў**). Мера пакараньня С. Мацкойця — шэсьць сутак адміністрацыйнага арышту.

*17 лістапада* Партызанскі суд Менска абвінаваціў назіральніка *ПЦ „Вясна-96"* ***Вадзіма Канапацкага*** па артыкуле 167, частка 2 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (парушэньне парадку правядзеньня масавых акцыяў) і пакараў на 15 сутак адміністрацыйнага арышту.

У гэты ж дзень адбыўся суд над сакратаром *Управы БНФ „Адраджэньне"* ***Вячаславам Сіўчыкам***, якога асудзілі на 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Суды над журналістам ***Валеры Шчукіным*** і рэдактарам прафсаюзнай газэты *„Рабочы"* ***Віктарам Івашкевічам*** былі адкладзеныя.

*18 лістапада* Генэральны дырэктар Менскага маторнага завода **К. Шаўлоўскі** падпісаў Загад №531 пра забарону распаўсюджваньня ўлётак і іншых сродкаў масавай інфармацыі. Улёткі Свабоднага прафсаюзу металістаў „былі знойдзеныя на прахадной і ў вытворчых памяшканьнях." Загадам дырэктара забараняецца *„усім работнікам, грамадзкім арганізацыям, якія знаходзяцца на тэрыторыі аб'яднаньня, распаўсюджваць аб'явы і друкаваныя альбо памножаныя іншым чынам сродкі масавай інфармацыі (лістоўкі, газэты, аб'явы, іншыя выданьні) у нявызначаных для гэтага месцах, а таксама раскідваць іх у цэхах, памяшканьнях будынкаў і г.д. на тэрыторыі ММЗ".* Каб вывесіць аб'яву любога зьместу ў спэцыяльна вызначаным для гэтага месцы, неабходна атрымаць пісьмовы дазвол намесьніка генэральнага дырэктара па інфармацыі. Парушальнікаў загадана *„тэрмінова затрымліваць і дастаўляць у вартавое памяшканьне (разам з друкаванымі матэрыяламі) для складаньня адпаведных актаў".* Кантроль за выкананьнем гэтага загаду ўскладзены на намесьніка генэральнага дырэктара **Д. Краеўскага**.

*20 лістапада Аргкамітэт Кангрэсу дэмакратычных сілаў Беларусі* накіраваў ліст на імя старшыні Нацыянальнай Дзяржтэлерадыёкампаніі **Рыгора Кісяля**. Аўтары ліста напісалі: *„Прапануем Вам да 10 сьнежня гэтага года — дня сьвяткаваньня 50-годдзя Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека — выдзеліць час на дзяржаўным тэлебачаньні і радыё для арганізацыі ў жывым эфіры штодзённай „Гадзіны дэмакратыі", падчас якой прадстаўнікі апазыцыі маглі б данесьці да насельніцтва свае погляды на сытуацыю ў краіне".*

*20 лістапада* скасаваны беспрэцэдэнтны дазвол на правядзеньне пікетаў *у Ганцавічах Берасьцейскай вобласьці.* Рашэньне „аб дазволе на пікетаваньне" было выдадзенае Ганцавіцкім гарвыканкамам 11 сьнежня 1997г. Паводле яго, заяўляльнік ***Мікалай Занька*** меў права праводзіць пікеты кожны дзень з 8.00 да 22.00 бястэрмінова на працягу года. Гэтае права М. Занька скарыстаў двойчы: правёў у сьнежні 1997г. пікет у абарону палітзьняволеных, а 24 лістапада 1998 — пікет у знак пратэсту супраць антыканстытуцыйнага перавароту 1996г. Пасьля гэтага гарвыканкам 20.11.1998г. адмяніў свой дазвол на пікеты, у рашэньні якога сказана: *„Поручить отделу архитектуры и градостроительства произвести отвод места для пикетирования в натуре."* *

*24 лістапада ў Менску* адбыўся мітынг пратэсту супраць антыканстытуцыйнага перавароту 24 лістапада 1996г., у дзень так званага „рэспубліканскага рэфэрэндуму", калі А. Лукашэнка зьдзейсьніў дзяржаўны пераварот: у выніку сфальсіфікаванага „ўсенароднага галасаваньня" адмовіўся ад дзейснай Канстытуцыі 1994 г. і незаконна ўвёў у дзеяньне ўласную канстытуцыю, у якой ён надаў сам сабе неабмежаваную ўладу. Заяўляльнікам акцыі была Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя *(Народная Грамада)*. Шэсьце пачалося ад пл. Якуба Коласа. Дэманстранты (2 тысячы чалавек) выйшлі на праезджую частку прасьпекта Францішка Скарыны (што не супярэчыла дазволу Менгарвыканкаму). Пад лёзунгамі *„Жыве Беларусь!"* і *„Свабоду палітвязьням!"* дэманстранты дайшлі да Опернага тэатру, дзе адбыўся мітынг. Выступілі дэпутаты незаконна разагнанага ў 1996г. Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, прадстаўнікі *Народнай Грамады* і *Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"*.

*24 лістапада* лукашэнкаўскія ўлады адмовілі ва ўезьдзе ў краіну *дэпутату Эўрапарляманту, сябру нямецкай Партыі Зялёных* ***Элізабэт Шродтэр***, якая плянавала 26-27 лістапада ў Менску прыняць удзел у канфэрэнцыі *„Зьмены ці ізаляцыя".* Беларускае консульства ў Брусэлі адмовіла спадарыні Шродтэр у атрыманьні ўязной візы ў Беларусь. Сп-ня Шродтэр — сябра *Камісіі па сувязях зь Беларусьсю, Малдовай і Украінай Эўрапарляманту* і першы заходнеэўрапейскі палітык, якому быў забаронены ўезд на тэрыторыю Беларусі. Яна прымала ўдзел у пікетах каля беларускай амбасады ў Брусэлі за захаваньне правоў чалавека ў Беларусі. У прэс-рэлізе, распаўсюджаным *фракцыяй Зялёных у Эўрапейскім парляманце* сказана: *„Забарона рэжымам Лукашэнкі на ўезд Элізабэт Шродтэр у Беларусь — правакацыя ня толькі ў адносінах да Эўрапарляманту, які даручыў спадарыні Шродтэр падрыхтаваць справаздачу аб праблеме будучых узаемаадносінаў паміж ЭС і Беларусьсю, але і ўсяму дэмакратычнаму грамадзтву".* Гэты выпадак быў у Эўрапарляманце расцэнены як надзвычайнае здарэньне, з гэтай прычыны ў Брусэлі высьпяваў скандал. У выніку зь беларускай амбасады затэлефанавалі ў офіс сп-ні Шродтэр і паведамілі, што візу яна можа атрымаць „хоць зараз". Дэпутат Эўрапарляманту ўсё ж прыехала ў Менск.

*26 лістапада на Берасьцейскай мытні* пры аглядзе рэчаў у беларускіх удзельнікаў прэзентацыі *„Беларуская апазыцыя-98"* (ў старшыні ПЦ „Вясна-96" ***Алеся Бяляцкага*** і намесьніка старшыні *БНФ „Адраджэньне"* ***Юры Хадыкі***) Старэйшым інспэктарам **А.М. Курашам** былі канфіскаваныя незалежныя выданьні і паперы асабістага зьместу. У А. Бяляцкага — англамоўны бюлетэнь *„Права на волю"* (50 асобнікаў), агляд *„Правы чалавека ў Беларусі"* (студзень-верасень 1998г.), падрыхтаваны ПЦ „Вясна-96", прэс-рэлізы Цэнтру, а таксама тэзісы даклада А. Бяляцкага, які ён павінен быў прачытаць у Варшаве. У сп. Ю. Хадыкі былі канфіскаваныя тэзісы даклада і асабістыя паперы. Свае дзеяньні інспэктар

** На беларускую мову не перакладаецца.*

А.М. Кураш матываваў тым, што гэтая друкаваная прадукцыя мусіць прайсьці экспэртызу, якая павінна высьветліць, ці не ўтрымліваюць дадзеныя матэрыялы абразаў гонару і годнасьці прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

*27 лістапада* зьняволены дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня ***Андрэй Клімаў***, які ўжо 10-ы месяц утрымліваецца ў менскім СІЗА, спаткаўся з жонкай Тацьцянай і дачкой Аленай, якой у гэты дзень споўнілася чатыры гады. Дэпутат і бізнэсмэн не зьмяніў сваёй пазыцыі ў адносінах да расьследваньня. А. Клімаў па-ранейшаму адмаўляецца ўдзельнічаць у любых сьледчых дзеяньнях: не адказвае на пытаньні і не знаёміцца з дакумантамі.

*28 лістапада ў Берасьці* каля кінатэатру „Беларусь"адбыўся пікет з патрабаваньнем павышэньня ўзроўню жыцьця, арганізаваны Свабодным прафсаюзам ***(СПБ)***. Людзі выйшлі з плякатамі: *„Заводы запусьцілі, цэны адпусьцілі, магазіны апусьцелі", „Патрабуем павысіць мінімальную зарплату да 100 даляраў", „TV — прафсаюзам!".*

*29 лістапада ў Слуцку* адбылося несанкцыянаванае шэсьце. У гэты дзень адзначаліся ***78-я ўгодкі антыбальшавіцкага збройнага чыну ў Слуцку*** (Менская вобласьць). *Гэта самая яскравая і трагічная старонка ў гісторыі барацьбы беларускага народа супраць бальшавікоў.* Гарадзкія ўлады афіцыйна дазволілі правядзеньне мітынгу, прысьвечанага гэтай падзеі, на стадыёне. Зь Менску ў гэты дзень выехалі прадстаўнікі *Беларускага Народнага Фронту"Адраджэньне"* (больш за 100 чалавек), каб ушанаваць памяць змагароў за волю і незалежнасьць Беларусі. Прадстаўнікі *БНФ* наведалі памятныя мясьціны, зьвязаныя з падзеямі збройнай барацьбы: *мястэчкі* ***Чырвоную Слабаду, Семежава, Грозаў, Вызна.*** У Слуцку калёна пад *бел-чырвона-белымі сьцягамі* рушыла да будынку краязнаўчага музэя, у якім у 1920 годзе месьціўся ўрад *Слуцкай Рэспублікі.* Прадстаўнікі *БНФ* усклалі вянок. На адваротным шляху каля стадыёна іх чакала міліцыя з мэтай перашкодзіць іхняму руху.

Менчукі вярнуліся ў Менск. А 1-га сьнежня на сядзібу *БНФ* у Менску зьявіліся два маёры са Слуцкага Аддзяленьня Унутраных Справаў. (Адзін зь із — намесьнік начальніка аддзелу грамадзкай бясьпекі Слуцка **В.Ю. Алюшын**.) Маёры шукалі Г.Ул. Банкевіча, які арганізаваў паездку. 4-га сьнежня на ***Г. Банкевіча*** і ***М. Анцыповіча*** былі складзеныя адміністрацыйныя пратаколы.

*30 лістапада ў Менску* пачаўся міжнародны кінафэстываль у абарону правоў чалавека. Патранаж над фэстывалем узяло на сябе ***прадстаўніцтва ААН у Беларусі***. Намесьнік міністра **Юры Цьвяткоў** заявіў, што дзяржава не зьбіраецца „фінансава і арганізацыйна падтрымліваць гэты няпланавы фэстываль".

*30 лістапада* ў судзе Кіраўскага раёну Магілёўскай вобласьці пачаўся судовы працэс над двойчы Героем Сацыялістычнай працы, былым кіраўніком ЗАТ *„Расьсьвет"* ***Васілём Старавойтавым*** і двума ягонымі падначаленымі — ***Аляксандрам Яўстратавым*** і ***Алегам Шапавалавым***. В.Старавойтава абвінавачваюць у тым, што ён стварыў злачынную групоўку з мэтай сістэматычнага рабаваньня дзяржавы. Яму таксама інкрымінуюць спробу даць хабар і незаконнае захоўваньне зброі. Адвакаты прасілі ўлічыць *74-гадовы ўзрост В. Старавойтава,* стан ягонага здароўя (у менскай турме КДБ ён перанёс інсульт) і вызваліць з-пад варты пад падпіску аб нявыезьдзе. Суд адхіліў хадайніцтвы адвакатаў. На думку журналістаў, расправаю над В. Старавойтавым кіруе сам А. Лукашэнка.

***(Матэрыялы падрыхтаваў Алесь БЯЛЯЦКІ)***

# АБ АРЫШЦЕ УЛАДЗІМЕРА ПЛЕШЧАНКІ

## ЗАЯВА

Рэжым Лукашэнкі на Беларусі працягвае бясчынствы супраць асобы. Арышты без прычыны і ўтрыманьне ў турме палітычных апанэнтаў без суду прадаўжаюцца.

Вось ужо два месяцы знаходзіцца за кратамі вядомы ў Віцебску супраціўленец і змагар супраць дыктатуры ***Уладзімер Плешчанка.*** Яго кінулі ў камэру быццам бы па падазрэньні ў зьнішчэньні гіпсавага бюста расейскага карніка „генералісімуса" Суворава (кіраваў рускай арміяй супраць паўстанцаў Касьцюшкі ў Польшчы і Беларусі).

Абвінавачваньне прыдуманае і цалкам галаслоўнае тым больш, што бюст карніка знайшоўся. Сапраўдная прычына нематываванага арышту Ул. Плешчанкі заключаецца ў яго апазыцыйным змаганьні супраць этнацыду і дыктатуры. Уладзімер Плешчанка разам зь вядомымі віцебскімі супраціўленцамі ***Барысам Хамайдам*** і ***Юрасём Марозам*** уваходзіць у суполку *Беларускага Народнага Фронту — групу „Выбар"*, якая выдае напаўлегальную газэту *„Выбар"* і змагаецца з лукашэнкаўскім рэжымам шляхам адкрытай і самаахвярнай дэманстрацыі грамадзянскай пазыцыі, непрыняцьця афіцыйнай беларусафобіі і дыктатуры. Група *„Выбар"* мэтадычна наладжвала пікеты і дэманстрацыі пад лёзунгам: ***„Мы — за дэмакратычную Беларусь", „Беларусь — наша Бацькаўшчына, наш дом, наша маці".*** Спэцаддзелы міліцыі тут жа арыштоўвалі групу, зьбівалі, потым судзілі, саджалі пад арышт. Але пасьля выхаду з турэмнай камэры змагары зноў дэманстравалі непахіснасьць пад сваімі лёзунгамі. Усё паўтаралася. І гэтак дзясяткі разоў.

Ніякага парушэньня нават лукашэнкаўскага заканадаўства з боку групы *„Выбар"* не было. Тут усё законна. Гэта гандзісцкі мэтад дэманстрацыі ўпартасьці і бясстрашша перад дыктатурай. Змагары перамагалі духоўна. Функцыянеры рэжыму гэта разумелі і ўжывалі супраць іх крайнія антычалавечныя мэтады.

За размову на беларускай мове з афіцэрамі спэцаддзелу міліцыі ***Юрась Мароз*** быў зьбіты імі да паўсьмерці і доўга лячыўся ў шпіталі. Ён падвяргаўся шалёнаму перасьледу. Вясной гэтага года ўзьнікла сур'ёзная пагроза яго свабодзе і жыцьцю, і Ю. Мароз вымушаны быў уцякаць зь Беларусі. Ён папрасіў палітычнага прытулку ў Чэхіі. Цяпер улады ўзяліся за ***Плешчанку***, каб згнаіць яго без суда ў турме. Мэтад адпрацаваны і ўсё разьлічана — Ул. Плешчанка хворы на сэрца. На чарзе ***Барыс Хамайда і іншыя.***

Я зьвяртаюся да праваабарончых арганізацыяў у Эўропе і Амэрыцы з запрашэньнем зьвярнуць увагу на гэтыя факты і выказацца пра паламаньне правоў чалавека ў Беларусі, пра прадуманую тактыку пераходу да індывідуальнага перасьледу, тэрору і зьдзеку над асобным чалавекам.

Уладзімеру Плешчанку патрэбная міжнародная падтрымка. Ён, як і іншыя палітычныя вязьні ў Беларусі, не павінен знаходзіцца ў турме, бо чалавек мае права на свабоду слова і свабоднае волевыяўленьне, на прыхільнасьць да чалавечых каштоўнасьцяў, на шанаваньне сваёй мовы і краіны.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***
***сябра Беларускага ПЕН-клюбу***
*2 лістапада 1998 г., г. Нью-Ёрк*

# НЕ — ПРАРАСЕЙСКІМ ВАЙСКОВЫМ АВАНТУРАМ РЭЖЫМУ А. ЛУКАШЭНКІ!

**Заява Сойму БНФ „Адраджэньне"**

Рэжым А.Лукашэнкі ўзмацняе вайсковую інтэграцыю з Расеяй. Гэта не адпавядае а ні канстытуцыйнаму патрабаваньню імкнуцца да нэўтралітэту нашай краіны, а ні яе жыцьцёвым інтарэсам. За XX стагоддзе Беларусь згубіла мільёны жыцьцяў. Некалькі разоў давялося паднімаць яе эканоміку літаральна з руінаў.

Беларусі не пагражае НАТА і Беларусь ня мае геапалітычных інтарэсаў у Сэрбіі. Імкненьне прэзыдэнта Лукашэнкі ўцягнуць Беларусь у Югаслаўскі канфлікт ёсьць правакацыя ў інтарэсах расейскіх імпэрыялістычных сілаў.

*Сойм БНФ „Адраджэньне"* патрабуе ад сёньняшніх уладаў строга прытрымлівацца канстытуцыйных прынцыпаў нэўтралітэту і заклікае грамадзтва рашуча пратэставаць супроць ваенных пагадненьняў з Расеяй, якая адраджае сваю імпэрскую палітыку і стан халоднай вайны з дэмакратычным сьветам.

Тыя, хто парушае Канстытуцыю Беларусі, рана ці позна панясуць прадугледжаную законам адказнасьць.

*г. Менск*
*15 лістапада 1998г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК*** ***Да 10-годдзя БНФ***

# КУРАПАТЫ. 10 ГАДОЎ ПАСЬЛЯ

Праз тыдзень разгарнуліся падзеі больш сур'ёзныя. За сваю някемлівасьць, правалы і паражэньні, камуністы рашылі адпомсьціць. Ім хацелася, як сказаў тады Яфрэм Сакалоў „даць, каб ня ўсталі".

Штаб апэрацыі ўзначаліў тадышні сакратар ЦК КПБ па ідэалёгіі Валеры Пячэньнікаў. Плян быў просты: 30 кастрычніка, у час першага масавага адзначэньня *„Дзядоў"*, якое зьбіраліся правесьці прыхільнікі *Народнага Фронту*, сілы камуністычнага парадку намерваліся справакаваць бойку. Потым павінны былі ўмяшацца ўнутраныя войскі і „пусьціць кроў" — пабіць людзей. Адказнасьць за правакацыю і за ахвяры звалілі б на беларускіх „нацыянал-фашыстаў", якія арганізавалі *Народны Фронт*. Пасьля гэтага камуністы меркавалі разграміць усё, што можна і галоўнае — спадзяваліся атрымаць пахвалу з Масквы, а магчыма, таксама пасады і ўзнагароды.

Гэта было зразумела адразу. Але прыблізна праз год пасьля правалу „апэрацыі" адзін афіцэр міліцыі перадаў мне копію пляна дзеяньняў, які быў „даведзены" аднаму зь Менскіх раённых аддзелаў унутраных справаў. З гэтага пляну шмат што высьветлілася. Людзей павінны былі выцесьніць ад Усходніх могілак у стары няплодны сад (што раськінуўся побач гактараў на сто) і пабіць.

Мабілізаваная была міліцыя з усёй Беларусі, акрамя таго — аддзелы АМАПу, унутраныя войскі, ДАІ і ваенныя пажарныя часткі, курсанты міліцэйскіх вучэльняў, КДБ, работнікі райкамаў партыі і камсамола. Працавалі суды і пракуратура (хоць быў выходны дзень), паліклінікі і медыцынскія пункты, дзяжурылі напагатове машыны хуткай дапамогі, у райкамах і судах сядзелі людзі з аўтаматамі. Усе дарогі вакол Менска былі перакрытыя міліцыяй і ДАІ. *Курапаты* акружылі ўнутраныя войскі, а падыходы заблякавала міліцыя. Нікога не прапускалі. Нікому не далі паставіць сьвечку, а самых актыўных — хапалі альбо зьбівалі.

Каля Усходніх могілак сабралася прыблізна дзесяць тысячаў чалавек. Але міліцыі і спэцвойскаў, відаць, было ня менш. Міліцыя і пераапранутыя агенты напалі першымі. Пачалі адціскаць і таптаць людзей, хапаць актывістаў *Фронту, Мартыралёгу* і тых, на каго паказвалі агенты ў натоўпе.

Упершыню менчукі ўбачылі ваенныя пажарныя машыны з вадзянымі гарматамі, мноства велізарных фургонаў з закратаванымі вокнамі, салдат у плястыкавых шлёмах са шчытамі і міліцыю з газавымі балёнчыкамі. Дэманстрацыя сілы была ўнушальная, але стала зразумела, асабліва пасьля таго, як пачалі нападаць на людзей, што гэта ня толькі дэманстрацыя сілы. Рыхтавалася нешта вельмі змрочнае. Людзей хапалі, круцілі і зьбівалі ўжо на падыходах да могілак. Да маладых мужчын падскоквалі тыпы ў цывільным і ні з таго ні з сяго пырскалі з газавых балёнчыкаў у вочы Чаромхай і адскоквалі.

Нейкая віжаватая „дамачка" з райкаму камсамола, як можна здагадацца, з лёгкім кадэбісцкім стажам, падляцела да маладога мужчыны, ударыла яго рукой па твары і чакала рэакцыі ў адказ. Рэакцыі, вядома, не было ніякай. Але ўсім неяк стала адразу зразумела, што робіцца вялікая правакацыя.

* * *

Людзям удалося дамовіцца, што ніхто не павінен адказваць сілай на сілу, ніхто не павінен паддавацца на правакацыю. Натоўп міліцыянераў клінам урэзаўся ў людзкую масу. Людзі расступіліся і зноў зышліся. Клін прайшоў праз тлум, як нож праз масла, і усё засталося па-ранейшаму. Відаць было, што выканаўцы правакацыі крыху разгубіліся.

У гэты час частка людзей, тысячы са тры, аддзялілася і пайшла на *Курапаты*. Зараўлі машыны з АМАПам і, пераганяючы дэманстрантаў, рынуліся пад *Курапацкі лес*. Відаць, паехалі займаць на подступах баявыя пазыцыі. Не даходзячы да *Курапатаў*, шэсьце зьвярнула ў поле, дзе на схіле пагорка за горадам адбыўся мітынг. Каб бачыць прамоўцаў, усе апусьціліся на калені альбо прыселі. Тут упершыню амаль што праз паўстагоддзя падсавецкага існаваньня быў разгорнуты і ўзьняты беларускі *бел-чырвона-белы сьцяг*.

Пайшоў першы сьнег. Шумеў вецер, падымаў і ўзносіў палымяныя словы прамоўцаў. Неўзабаве нас акружылі батальён унутраных войскаў і безьліч міліцыі. Напасьці павінны былі з узгорка, дзе паставілі курсантаў і пануквалі іх таптаць сядзячых людзей. Курсанты не маглі скрануцца. Відаць, яшчэ зь непрывычкі. Тады іх перавялі на бакавы фронт, а з узгорка паставілі афіцэраў. Тыя па камандзе лавінай кінуліся на сядзячых маніфэстантаў. Мы ўсе тут жа падхапіліся і, як і дамовіліся, шчыльна шчапіліся рукамі. Маса людзей стала нібы адзіны сплецены кошык, клубок. Расчляніць яго і распарушыць людзей па полі міліцэйскаму войску так і не ўдалося. Бо мы разгадалі іхнія намеры. Арганізаванасьць і кіруемасьць вялікай масы людзей тады мяне вельмі зьдзівіла. Я сам бачыў, як хлопцы гадоў па 16—17 хапалі камяні, каб кідаць у салдат, а іншыя, такія ж, як яны, падбягалі да іх і казалі: „Выкідайце, загадана не кідаць, правакацыя!"

* * *

Правакацыя правалілася, прытым — з трэскам. Камуністы вывелі магутную ўзброеную сілу і нябачаную раней тэхніку супраць мірных жыхароў, якія ў большасьці сем'ямі, разам з жонкамі і дзецьмі, трымаючы ў руках белыя кветкі, ішлі на

магілкі, каб ушанаваць памяць памерлых. Тупая дэманстрацыя сілы, варожасьці і агрэсіўнасьці выклікала ў гэтых людзей найперш недаўменьне і зьдзіўленьне, а потым — абурэньне. Не дапамагла потым камуністам ніякая прапаганда.

Памятаю, разгублены твар ***Янкі Брыля***, зьдзіўленьне мастака ***Аляксея Марачкіна***, рэжысёра Купалаўскага тэатра ***Валерыя Раеўскага***, чалавека даволі нэўтральнага. Да яго нечакана падскочылі прадстаўнікі „парадку", пырснулі ў вочы сьлезацечнага газу і далі кухталёў. А ўсё, пэўна, таму, што быў ён інтэлігентнага выгляду і ў белай манішцы. Адразу відаць — „фашысцкая морда".

Дарэчы, цікавая дэталь. У сьвядомасьці камуністаў (дакладней, у падсьвядомасьці) спрацоўваюць нейкія відавыя стэрыятыпы ці міфалагемы: усё, што супраць камунізму, адзначаецца імі як фашызм, а таксама ўсё, што зьвязана з нацыянальна-вызвольным рухам. Чалавек, які ў СССР размаўляў, скажам, па-эстонску ці пабеларуску — гэта быў для іх „фашыст", вораг камунізму і Расеі. Усіх працiўнікаў і крытыкаў камуністычнай імпэрыі і яе ідэялёгіі зводзілі да аднаго паняцьця і аднаго тэрміну — „фашыст" альбо „фашызм". Над гэтым спэцыяльна працавала партыйная ідэялягічная прапаганда. Габрэйскі сыянізм, беларускае адраджэньне і нават беларускі песенны фальклёр у сьпевах дзяцей — усё гэта для камуністаў быў „фашызм".

Памятаю, як 20 красавіка 1986 года ў Траецкім прадмесьці ў Менску беларуская грамадзкасьць ладзіла маладзёвае *"Гуканьне Вясны"*. КДБ, Менскі гаркам камсамола, пры падтрымцы гаркама партыі, арганізавалі прыблізна 60 дэмабілізаваных салдат, якія толькі што вярнуліся з савецка-афганскай вайны, і нацкавалі іх на беларускіх дзяцей, удзельнікаў сьвята. „Всё эта фашисты, — павучалі кадэбісцкія інструктары дэмабілізаваных вайскоўцаў. — Для віда ані пают беларускіе песьні, но все разгаварывают на беларускам языке." Банда на вачах гледачоў напала на дзяцей, што вадзілі карагод і гукалі вясну.




***Пачатак шляху. (Фота Ул. Кармілкіна)***

Дарэчы, гэтакія энкавэдзісцкія ўяўленьні пра палітыку, сьвет і жыцьцё выразна ўвасобленыя цяпер у дыктатарскім акупацыйным рэжыме на Беларусі.

* * *

Зімой 1989 года *Дзяржаўная Камісія па Курапатах* вымушана была прызнаць факт сталінскіх расстрэлаў мірных жыхароў у *Курапацкім лесе*. Але гэта не азначала, што камуністы і НКВД складуць зброю. Вельмі пацешна было назіраць, як камуністы і розныя з камуністаў дэмакраты на ўсе лады апісвалі свае ацэнкі *Курапатаў*, падзеяў, зьвязаных зь іхным дасьледваньнем і адкрыцьцём і ўсяляк пазьбягалі называць маё імя. А адзін журналіст, не зьяўляючыся ні дасьледчыкам, ні гісторыкам, ня маючы ніякага доступу да матэрыялаў, пагартаўшы надрукаванае, напісаў нават цэлы дылетанцкі твор пад назвай „Польскі сьлед у Курапатах", дзе ўмудрыўся ні разу ня ўспомніць пра маё існаваньне, я ўжо не кажу пра працу, спасылкі і г.д.

КДБ ніколі не забываўся пра *Курапаты* і пра крывавыя справы сваіх папярэднікаў. Яскравы прыклад — *Лошыца* пад Менскам. На правым беразе ракі Лоша — глыбокі зарослы яр. Тут расстрэльвалі ўвесь час напрацягу 1937 года. У 1988 годзе я некалькі разоў размаўляў са сьведкам Лошыцкіх расстрэлаў спадарыняй ***Верай Шумскай***, якой тады ўжо ішоў дзявяты дзясятак. Вязьняў на расстрэл вазілі крытымі грузавікамі ў шэсьць гадзінаў раніцы і тут жа расстрэльвалі. Закопвалі ў вялікіх ямах. У 1988 годзе, у час археалягічных дасьледваньняў *Курапатаў*, я вырашыў адначасна дасьледваць *Лошыцу*. Калі я прыехаў сюды з камандай археолягаў, то не паверыў сваім вачам... Яру не было. Не было вялікіх марэнных узгоркаў, на якіх раней рос ябланевы сад. Не было і саду. Яр, плошчай каля трох *га*, быў засыпаны мокрым галечным жвірам і ўтрамбаваны валкам. Узгоркі ссунутыя бульдозерам у яр, сад высечаны, яблыневыя дрэвы сьцягнутыя ў кучы.

За паўкілёмэтра — кантора прыгараднага калгаса. Старшыня быў вельмі зьдзіўлены, калі даведаўся, што яр засыпаны. Яшчэ два тыдні назад ён быў. Нехта прарабіў тытанічную працу. Потым я даведаўся, што некалькі месяцаў назад гэтую тэрыторыю забралі з калгаса і перадалі ў валоданьне гораду Менску. Горад хуценька пачаў тут рабіць стаянку для машын (на магілах, на касьцях). Цяпер гэта ўсё пакрыта асфальтам, стаяць аўтамабілі, пабудаваная прахадная, у якой сядзіць вечны адстаўнік — былы палкоўнік савецкай арміі, і правярае дакументы.

Я ўвачавідкі пераканаўся, што калі КДБ трэба, дык і горы скапаюць, і рэкі засыплюць. На гэты раз яны пасьпелі. Дасьледваць *Лошыцкія магілы* практычна ўжо немагчыма. Засталіся толькі галасы сьведкаў на магнітнай стужцы і Боскі суд для забойцаў.

У 1995 годзе на *Дзень задушны* і *Дзяды* актывісты *Беларускага Народнага Фронту* паставілі тут вялікі драўляны крыж і сьвятары асьвяцілі яго малітвай. Такіх месцаў, як *Курапаты*, як *Лошыца*, надзвычай шмат на Беларусі. Мы пра іх ведаем і памятаем пра генацыд.

* * *

У 1992 годзе, праз паўгода пасьля вяртаньня незалежнасьці, у Беларусі пачалі рыхтаваць новую, цяперашнюю сытуацыю. Уладу стаў захопліваць КДБ, які непасрэдна ўключаўся ў палітыку. У Савеце Міністраў утварылі штучныя неканстытуцыйныя структуры і пасады, якія занялі генералы і функцыянэры КДБ. Былы прэм'ер Кебіч і Старшыня Вярхоўнага Савета Шушкевіч паслухмяна ішлі на павадку гэтай рэваншысцкай антыбеларускай палітыкі.

Першы магутны і, я б сказаў, рашаючы ўдар рэваншысцкія сілы нанесьлі беларускаму адраджэньню восеньню 1992 года: нахабна і бесцэрымонна забаранілі правядзеньне рэфэрэндаму аб новых выбарах у парлямант. Гэта тады, калі Народны Фронт і ўсе беларускія адраджэнцкія сілы сабралі амаль паўмільёна подпісаў грамадзянаў за рэфэрэндум. Для бруднай працы (абгрунтаваньне забароны) быў выбраны дэпутат **Д.Булахаў**. Але найбольш паспрыяў забароне рэфэрэндуму сьпікер **С.Шушкевіч**. Тады мы, у фракцыі БНФ, яшчэ ня ведалі пра асабістыя сувязі С.Шушкевіча з КДБ і тлумачылі яго паводзіны асаблівасьцямі яго розуму, у якіх мы да таго часу ўжо добра разабраліся. Цяпер, асабліва пасьля выхаду кнігі Нормана Мэйлера пра Лі Харві Освальда і пасьля зьяўленьня іншых матэрыялаў, артыкулаў, інтэрв'ю, дзе высьвятляецца роля С.Шушкевіча і яго дачыненьняў з КДБ, сытуацыя з забаронай рэфэрэндуму выглядае проста злавеснай.

Забарона рэфэрэндуму ў 1992 годзе зачыніла адраджэнскую пэрспэктыву для Беларусі. З гэтага часу разгортваўся рэванш самых цёмных савецкіх антыбеларускіх сілаў. Знакавымі слупамі гэтага працэсу сталі потым прэзыдэнцкія выбары 1994 года і антыканстытуцыйны пераварот у лістападзе 96-га.

*(Працяг будзе)*

# АБ ДЫФАМАЦЫІ

## Заява

Упачатку лістапада гэтага года кіраўнік па міжнародных справах нелегітымнага парляманту цяперашняй Беларусі генерал Чаргінец выступіў з чарговай спробай дыфамацыі ў мой адрас, заявіўшы аб тым, што ўлады Лукашэнкі „прадставілі" намесьніку старшыні Парляманцкай Асамблеі Рады Эўропы спадару Р. Антрэтару „тэксты шматлікіх выступаў З. Пазьняка", дзе, на іх думку, „выстаўляліся тэрытарыяльныя прэтэнзіі да сумежных дзяржаваў і сеялася міжнацыянальная розьнь". („Беларуская газета")

Ужо дзесяць гадоў, пачынаючы ад адкрыцьця *Курапатаў* у 1988 годзе (месца камуністычных расстрэлаў нявінных людзей) і ад пачатку стварэньня *Беларускага Народнага Фронту*, які паставіў крыж на камунізме ў Беларусі, я падвяргаюся шалёным нападкам з боку тагачаснай і былой цяперашняй намэнклятуры. „*Міжнацыянальная розьнь*" і „*тэрытарыяльныя прэтэнзіі*" — гэта яшчэ самае мяккае, што прыдумалі пра мяне прадстаўнікі былой ідэалёгіі і арганізацыі КПСС, якая праводзіла тэрор, генацыд, зьнішчыла мільёны людзей і распачала разам з гітлераўцамі 2-ю Сусьветную вайну за падзел сьвету.

Я змагаўся, змагаюся і буду змагацца супраць гэтай антылюдзкай ідэалёгіі, злачыннай партыі і яе цяперашніх дзеючых і мімікрыруючых кіраўнікоў. Бо сучасны дыктатарскі рэжым на Беларусі — гэта ёсьць рэжым камуністычнага савецкага рэваншызму, арганізуючай сілай якога зьяўляецца КГБ.

Палітыка арганізацыі і пазыцыя асобы вызначаецца не па фразах, тэндэнцыйна выхапленых з кантэксту, а па самым кантэксьце, па зьмесьце і выніках дзейнасьці.

У Беларусі дыктатура, правы чалавека паламаныя, беларускія школы зачыненыя, а сярэдняя зарплата зьнізілася да 20-15 даляраў у месяц, і людзі, што выбралі і прадаўжаюць любіць „прэзыдэнта", здаюць сваю кроў, каб паесьці. Вось аблічча дыктатарскай Беларусі.

Усё гэта не замінае міністрам і генералам рэжыму цынічна аб'яўляць цяперашнюю Беларусь „*узорам дэмакратыі*", а эканамічны спад — эканамічным уздымам.

Прырода гэтакай зьявы, як і прычыны дыфамацыі супраць мяне — вядомыя. І я, і *Народны Фронт* заўсёды стаялі і стаім на абароне правоў чалавека, свабоды і дэмакратыі, незалежнасьці Беларусі, парлямантарызму і законнасьці. Мы стаім за эўрапейскі шлях разьвіцьця і не прымаем рэваншысцкую палітыку рускага імпэрыялізму. Мы прытрымліваемся Гэльсінскіх пагадненьняў у дачыненьні паміж людзьмі, краінамі і народамі. Але галоўнае тое, што мы засьведчылі і сьведчым гэта ў сваёй палітычнай дзейнасьці і палітычным змаганьні.

Мэтады маіх палітычных антаганістаў непрыймальныя ў цывілізаванай палітыцы. Усяму ёсьць мяжа. Вядома, людзям, што зрабілі пераварот, рот не зачынеш. Але пасьля ліквідацыі дыктатарскага рэжыму за дыфамацыю (і ня толькі за дыфамацыю) ім прыдзецца адказваць перад адноўленым у правах беларускім судом.

Ніколі дыктатура не была вечнай, тым больш у Эўропе. І мы разьлічваем на салідарнасьць эўрапейскіх структураў у нашым змаганьні за правы чалавека, незалежнасьць, культуру і свабоду Беларусі.

*Зянон ПАЗЬНЯК*
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***
*12 лістапада 1998г., г.Нью-Ёрк*

# „ТЫМ, ШТО ПАЎСТАЛІ Й ПАЙШЛІ ПАМІРАЦЬ, КАБ ЖЫЛА БАЦЬКАЎШЧЫНА"

Словы гэтыя вышытыя рукамі беларускіх сялянак на баявым сьцягу ***Слуцкіх паўстанцаў***, вымоўна перадаюць бязьмежную ахвярнасьць для беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі, якая была неадлучнай у герояў Случчыны й натхняла іх на вялікія чыны.

***27 лістапада спаўняюцца 78-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну, Слуцкага паўстаньня, якое было вайной БНР з бальшавікамі.*** Ніжэй падаем кароткі гістарычны нарыс лістападаўскіх падзеяў 1920-га году на Случчыне.

Сярод беларускіх краінаў Случчына заўсёды вызначалася асаблівай актыўнасьцю ў беларускім нацыянальна-вызвольным руху. Дык і ў 1918 годзе, калі дабегла вестка, што *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла 25 сакавіка 1918 году ў Менску Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай*, у Случчыне адразу із собскай ініцыятывы пачалі тварыцца выканаўчыя органы *БНР*, якія сталіся мясцовай уладай, падпарадкаванай цэнтральным вярхоўным органам *БНР* у Менску.

Гэтак паўстае ў Слуцку ў тым-жа 1918 годзе *Беларускі Нацыянальны Камітэт* на чале з ***Паўлам Жаўрыдам*** і разгортвае шырокую дзяржаўна-адміністрацыйную дзейнасьць. Аднак уся гэтая праца хутка была зьліквідаваная ў зародку, ня могучы яшчэ акрэпнуць і разьвіцца. Бальшавікі, якія ў той час пасоўваюцца на захад, займаюць Случчыну, разганяюць *Беларускі Нацыянальны Камітэт*, а ягонага старшыню Паўла Жаўрыда арыштоўваюць. Праз два гады, у сувязі з польска-бальшавіцкай вайной і пасоўваньнем палякаў на ўсход, Случчына ў 1920 годзе пераходзіць пад польскую акупацыю. Перад самым бальшавіцкім адступленьнем удаецца Паўлу Жаўрыду ўцячы з турмы, а *Беларускі Нацыянальны Камітэт у Слуцку* ізноў узнаўляе сваю дзейнасьць. Пры гэтым, дзеля самаабароны, была створана *народная міліцыя ў сіле 500 чалавек*, якая потым адыграла важную ролю, бо сталася ядром будучае Слуцкае дывізіі.

Каб паклікаць мясцовае нацыянальнае прадстаўніцтва, *Беларускі Нацыянальны Камітэт* пастанавіў склікаць зьезд Случчыны. Зьезд адбыўся 14 лістапада 1920 году ў Слуцку. У зьезьдзе прымала ўдзел *107 прадстаўнікоў ад гораду Слуцку й 15 воласьцяў Случчыны.* На зьезьдзе прымаў удзел таксама й Павал Жаўрыд, ужо як камісар *ураду БНР на Случчыне* і як прадстаўнік *Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.* Зьезд вызнаў сябе за найвышэйшае народнае прадстаўніцтва Случчыны, і як форму часовай улады выбраў ***Раду Случчыны*** ў складзе 17 чалавек на чале з ***Пракулевічам.***

У рэзалюцыі гэтага зьезду, між іншага, гаварылася: ***„Першы Беларускі Зьезд Случчыны, скліканы ў ліку 107-і асобаў, вітае Найвышэйшую Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і заяўляе, што ўсе свае сілы аддасьць на адбудову Бацькаўшчыны, катэгарычна пратэстуючы супраць заняцьця нашае Бацькаўшчыны чужацкімі й самазванымі савецкімі ўладамі. Хай жыве вольная й незалежная Беларуская Народная Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах!"***

За тыдзень пасьля зьезду, 21 лістапада 1920 году, выбраная ім Рада Случчыны выдала дэклярацыю, у якой між іншым гаварылася: ***„У мамэнт самавызначэньня ўсіх народаў і змаганьня за сваю самастойнасьць і свабоду Беларуская Рада Случчыны выконвае волю сялянства, пасылаўшага яе й даверыўшага ёй абарону нашае Бацькаўшчыны Беларусі, заяўляе ўсяму сьвету аб тым, што Беларусь павінна быць вольнай незалежнай рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і выражаючы волю народу, Слуцкая Рада дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы нават сілаю аружжа. Ня глядзячы на лічбовую перавагу ворага, думаем, што нашая справа — справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе."***

Пад канец лістапада бальшавікі ўварваліся ўзноў у Случчыну. Адважныя Случакі, верныя сваёй пастанове, ўхапіліся за зброю й запынілі першы бальшавіцкі наступ. У воласьцях і вёсках паўставалі *Беларускія Нацыянальныя Камітэты* як органы мясцовай улады, арганізаваліся на сьпех вайсковая самаабарона. Рада Случчыны пачала тварыць рэгулярныя вайсковыя аддзелы, ядром якіх, як ужо ўспаміналася, сталася народная міліцыя.

Тым часам бальшавікі зьбліжаліся да Случчыны. Час быў трывожны й кароткі, а абарона ня была яшчэ зарганізавана. Таму галоўнае беларускае вайсковае камандваньне, што было створана пры *Радзе Случчыны*, выдала загад ужо сфармаваным вайсковым аддзелам і міліцыі пакінуць Слуцк і зьбірацца ў мястэчку *Семежаве*, дзе ўсіх разам згуртавалася ***10 000 паўстанцаў***. Тут-жа *ў Семежаве* сфармаваўся беларускі полк пад камандваньнем палкоўніка ***Гаўрыловіча*** і зараз-жа, хоць ня меў дастатковай колькасьці зброі й амуніцыі, прыступіў да збройнае акцыі супраць бальшавікоў. У міжчасе ў Семежаве сфармаваўся і другі беларускі Грозаўскі полк, складзены пераважна з моладзі *Грозава*, пад камандаваньнем капітана ***Семянкова. З Слуцкага-ж і Грозаўскага палкоў стварылася першая Слуцкая дывізія,*** камандаваньне якой спачатку даручанае было капітану ***Анцыповічу***, пазьней — капітану ***Сокал-Катрылоўскаму.***

Гэтак сфармаваная першая беларуская дывізія 27 лістапада 1920 году пайшла ў крывавы бой за родную Беларусь, і ***гэты-ж дзень 27 лістапада й лічыцца пачаткам Слуцкага паўстаньня.***

Спачатку баі разгортваліся каля вёсак *Быстрыцы, Верабейчыцаў, Васільчыцаў, Чорнагубава, Васілішак, Дашнова, Лютавіч, Мацкевічаў, каля гораду Капыля, Цімкавічаў, Выспавы ды інш.* Шмат дзе паўстанцам удавалася ня толькі паўстрымоўваць бальшавікоў, а й адбіваць ад іх вёскі й мястэчкі. Так, прыкладам, паўстанцы адабралі ад бальшавікоў мястэчка Цімкавічы й іншыя мясцовасьці Случчыны. Бальшавікі мелі вялікія страты забітымі й параненымі. Шмат чырвонаармейцаў пайшло за прызывам Рады Случчыны, якая зьвярталася да іх з адмысловымі адозвамі, і здавалася ў палон, або пераходзіла ў рады паўстанцаў. Бачачы гэта, бальшавіцкае камандаваньне накіравала супраць паўстанцаў найбольш верныя камуністычныя аддзелы, якія ўжо ня так лёгка здаваліся, ды праводзіла масавыя арышты й расстрэлы сярод цывільнага насельніцтва.

Беларускія паўстанцы, ня гледзячы на небывалы патрыятычны энтузіязм і высокі баявы дух, ня маючы належнае зброі й амуніцыі, не маглі далей даваць адпору бальшавіком і змушаныя былі адступіць да ракі Лань. Пасьля гэтага усё-ж такі некалькі разоў паўстанцам удавалася рабіць удалыя контратакі й здабываць перамогі, але абараніць роднага краю ад бальшавіцкае навалы яны не маглі. ***28 сьнежня 1920 году*** Слуцкая дывізія прымушана была перайсьці польскую мяжу. Тут яе палякі

абзброілі і інтэрнавалі, спачатку каля *Сіняўкі,* а пасьля ў *Беластоку.* Частка паўстанцаў аднак не здала зброі палякам. Гэтыя паўстанцы вярнуліся назад, пайшлі ў Слуцкія лясы, зарганізаваліся ў партызанцкія аддзелы і яшчэ на працягу цэлых гадоў зь нячуванай зацятасьцю змагаліся з бальшавікамі, аж пакуль зусім ня былі пераможаны ў няроўным змаганьні.

* * *

Гэтак падгатаўлялася, разьвівалася і, на пасьледак, закончылася Слуцкае паўстаньне, адзін з слаўных эпізодаў збройнага змаганьня беларускага народу за вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць Бацькаўшчыны.

На першы погляд, яно выглядае скромным і сьціплым, як колькасьцю самых паўстанцаў, адсутнасьцю вялікіх перамогаў, якія мелі-б рашаючае значэньне ў цэлым змаганьні беларускага народу з бальшавікамі, гэтак і сваім тэрытарыяльным засягам. Але не ў стратэгічных і мілітарных дачыненьнях заключаецца гістарычнае значэньне Слуцкага паўстаньня. Ягоная няўміручая вартасьць скрываецца ў роўніцы ідэйнай, як адно з найбольш яркіх і вымоўных выяўленьняў нацыянальнага імкненьня беларускага народу й ягонае непахіснае волі змагацца за вольнасьць і незалежнасьць Беларусі. *Яно для нас зьяўляецца* асабліва важным і дарагім у сувязі з тым, што шырокія масы беларускага сялянства, ня гнаныя ніякім прымусам, але дабравольна, ведзеныя гарачай любоўю роднага краю, на столькі выказалі ў сабе беларускага патрыятызму й нянавісьці да расейска-бальшавіцкага акупанта, што спантанічна кінулася ў няроўны крывавы бой, „пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына".

***Матэрыял з артыкулу Язэпа Каранеўскага „Каб жыла Бацькаўшчына" у газэце „Бацькаўшчына" за 30 лістапада 1952 г. падрыхтавала Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ.***

## ДВА ГАДЫ ТАМУ

*Мінула два гады з дня антыканстытуцыйнага перавароту на Беларусі. Цяжкія два гады. Магчыма, мала хто спадзяваўся, што так можа здарыцца, хто па прастаце, а хто па ўпартасьці. Ці прымусіў рэжым думаць, ці навучыў адчуваць? Можа, каго й навучыў. Толькі жорсткая гэта навука.*

*Парадкуючы паперы, я натрапіў на дакумант двухгадовай даўнасьці. Сумнавата мне было яго перачытваць. І тым ня менш, мяркую, што варта яго друкаваць. Гэта нядаўняя гісторыя — мой зварот да дэпутатаў парляманту 13-га скліканьня, які я паслаў ім 11-га верасьня 1996 г. Шчыра кажучы, ня памятаю, ці зачытвалі яго ў голас, але што не прыслухаліся — відавочна. А дарма. Дарма, што даходзіць так позна.*

**Спадару Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёну Георгіевічу ШАРЭЦКАМУ**

## ЗВАРОТ ДА ДЭПУТАТАЎ ПАРЛЯМАНТУ

Спадары дэпутаты!

Падтрымліваю і вітаю вашыя станоўчыя ініцыятывы па захаваньні законнасьці і абароне парлямэнтарызму ў Рэспубліцы Беларусь. Але ў гэты пагрозьлівы для грамадзтва час адчуваю абавязак зьвярнуцца да вас як грамадзянін Беларусі, як былы дэпутат Вярхоўнага Савета, як старшыня *Народнага Фронту.*

Над Беларусьсю навісла пагроза жорсткай, нічым не абмежаванай, абсалютнай дыктатуры неўраўнаважанай асобы аднаго чалавека. Лукашэнка ставіць мэту шляхам рэфэрэндуму легітымізаваць захоп улады, узаконіць дыктатуру і рэпрэсіі супраць іншадумцаў, зьняць з сябе адказнасьць за разбурэньне беларускай дзяржавы, культуры і эканомікі. Сітуацыя, падобная як у Нямеччыне 1934 г., калі Гітлер праводзіў рэфэрэндум аб наданьні яму абсалютнай улады — і атрымаў яе. Ва ўмовах прэзыдэнцкай манаполіі на радыё, тэлебачаньне і друк, ва ўмовах беззаконьня і ўзурпацыі ўлады, ва ўмовах, калі прэзыдэнт бескантрольна распараджаецца бюджэтам дзяржавы, любы рэфэрэндум, які праводзіць узурпатар, будзе выйграны ўзурпатарам.

Калі рэфэрэндум адбываецца — рэжым перамагае. Ніякія выбары і давыбары ня будуць тады ўжо мець значэньне (ня трэба ў іх і ўдзельнічаць), бо зьменіцца Канстытуцыя. Вярхоўны Савет пасьля рэфэрэндуму будзе ліквідаваны законна, на падставе нібыта воевыяўленьня народа законным і абсалютным дыктатарам. Рэпрэсіі будуць таксама законныя, асьвечаныя „воляй народа", беззаконьне і крымінальшчына ўлады стануць законнымі дзеяньнямі авантурыстаў, якія будуць размахіваць народным мандатам на народнае зьнішчэньне.

У гэтым становішчы адзінае, што можа прадухіліць дыктатуру вар'ята — гэта імпічмант (адхіленьне ад улады) прэзыдэнта Лукашэнкі. Калі пастанова аб імпічманце тэрмінова ня будзе прынята, Вярхоўны Савет XIII скліканьня гэтым самым падпіша прыгавор сабе і прыгавор нацыі. У краіне не застанецца тады ніякай улады і ніякай сілы, якая б магла легітымна спыніць беззаконьне і дыктатуру.

Ня трэба баяцца, што пасьля аб'яўленьня імпічманту ўзурпатар ужыве сілу і „распусьціць" Вярхоўны Савет. Беззаконьнем, сілай Вярхоўны Савет не распускаецца. Імпічмант, прыняты парлямантам, стане законным актам. Усе дзеяньні ўзурпатара пасьля імпічманту (калі яны ўзьнікнуць), у тым ліку і правядзеньне рэфэрэндуму, ня будуць мець легітымнага характару. Рэжым авантурыстаў будзе пазбаўлены ўсялякіх перспектываў, страціць усялякую падтрымку.

Падкрэсьліваю: рэфэрэндум Лукашэнкі накіраваны на легітымізацыю дыктатуры. Імпічмант жа пазбаўляе яго гэтай магчымасьці. Аб'явіць імпічмант можа толькі Вярхоўны Савет.

*Спадары дэпутаты, рэальнасьць такая, што лёс нацыі сёньня ў вашых руках і часу амаль не засталося. Зрабіце хутка патрэбны крок для Беларусі. Выконайце свой абавязак перад законам, краінай і будучыняй.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***
***11 верасьня 1996г.***

## РЭЖЫМ РОБІЦЬ ДЭМАГРАФІЧНАЕ ЗЛАЧЫНСТВА НА БЕЛАРУСІ

Дэмаграфічнае злачынства акупацыйнага рэжыму супраць Беларусаў зьвязана перш за ўсё з імкненьнем увесьці ў сельскагаспадарчы зварот радыяцыйна заражаныя землі, вяртаньне беларусаў у зоны радыяцыі і засяленьне рускімі бамжамі і ўцекачамі з Расеі кінутых беларускіх вёсак у

чарнобыльскай зоне. Згодна міжнародных законаў і палажэньняў аб акупаваных тэрыторыях, акупанты не павінны зьмяняць дэмаграфічны склад насельніцтва акупаванай краіны. Нядаўна Лукашэнка даў інтэрв'ю прадстаўніку „міжнароднага кангрэсу" рускіх абшчынаў Г.А Кочэтаву, якое было зьмешчана ў адыёзнай рускай газэце „Славянский набат" (1998, 1-7 кастрычніка). Там ён паведаміў, што *кожны год у Беларусь перасяляецца сто тысячаў „бежанцаў" з Расеі, рускіх з Прыбалтыкі і Казахстана.* Усім ім, як кажа Лукашэнка, *„далі ўчастак, шмат каго прынялі ў грамадзянства, далі від на жыхарства."*

***ТамашРАКСА***

## „СЭРБСКІ ГЭРОЙ"

Ведаем мы Лукашэнку. У 1990 годзе, будучы дырэктарам саўгаса пад Шкловым, ён па-зьверску зьбіў двух калгасьнікаў. Супраць яго ўзбудзілі крымінальную справу, і толькі выбраньне дэпутатам у Вярхоўны Савет дапамагло заціснуць і спыніць разьбіральніцтва. (Цалкам несправядліва.)

У Вярхоўным Савеце Лукашэнка выступаў ад мікрафона па некалькі разоў на дзень і заўсёды лямантаваў, быў прыхільнікам калгасаў і калгаснага валоданьня зямлёй. Гэта не перашкодзіла яму незаконна выдзеліць сабе *50 га* зямлі і запісаць на непаўналетняга сына. (Дарэчы, яшчэ тады, калі заканадаўства было савецкае.) „Таварышчы"-камуністы ў Вярхоўным Савеце загневаліся на Лукашэнку, ды так, што той адмяніў сваё рашэньне і вярнуў зямлю саўгасу. Ён змагаўся з усім. Нават сам з сабой.

Цяпер ён ціхенька паклаў (як пішуць і кажуць) добрую суму даляраў у замежных банках. Куды ж накіравацца сьскінутаму дыктатару, як ні да сваіх рахункаў, перачакаўшы, скажам, у Расеі, дзе-небудзь на далёкім усходзе, а зрэшты, нават у Югаславіі, дзе ён стаў „гэроем Сэрбіі". Беларусь „окажэт Югаславіі всячэскую паддзержку і помашч..., беза всякіх условій, — сказаў нядаўна „сэрбскі гэрой", — в том чысьле і военную. Югаславы (?) могут на нас расшчытываць".

***Адам МІКША***

## ПРЭС-РЭЛІЗ

26-га кастрычніка 30 беларускіх аўтамашын з прадуктамі харчаваньня адправіліся ў Расею. Харчаваньне накіраванае ў 7 манастыроў і тры дабрачынныя праваслаўныя царквы. Прэзыдэнт і ўрад адгукнуліся на просьбу Алексія II і прынялі рашэньне аказаць дапамогу Расеі.

* * *

„Менск і Масква ўмацоўваюць ваенны саюз НАТО", — піша расейская газэта „Известия". Існуе агульная сістэма абароны паветрана-касьмічнай прасторы, ПВО Беларусі і Расеі разам нясуць баявое дзяжурства, на расейскіх палігонах праводзяць баявыя стрэльбы. Цяпер настаў момант стварэньня сумесных ударных груповак і падрыхтоўкі інфраструктуры для іх магчымага разгортваньня. Удакладняюцца пляны мабілізацыйнай гатоўнасьці ўзброеных сілаў.

* * *

... Адмова шэрагу расейскіх рэгіёнаў плаціць падаткі, забарона на вываз харчоў зьяўляюцца на самой справе дэманстрацыяй сілаў рэгіянальных уладаў. Прыкрываючыся лёзунгамі аб абароне эканамічных інтарэсаў, губернатары спрабуюць вырашыць іншыя задачы. Адна зь іх — атрымаць кантроль над рэгіянальнай уласнасьцю. У сваю чаргу слабы фэдэральны ўрад вымушаны шукаць кампрамісныя рашэньні.

* * *

*У кастрычніку сёлета Беларусь выйшла на 1-е месца сярод былога СССР па ступені абясцэньваньня нацыянальнай валюты ў дачыненьні да даляра, абагнаўшы Туркменістан і Грузію.*

* * *

***Уладзімер Букоўскі***: *„Адзіны і непазьбежны сцэнар, які найбольш рэальны — гэта распад Расеі на некалькі дзяржаваў.* Многія рэгіёны замарозілі цэны і ўсталявалі мытны кантроль вакол сваіх вабласьцей. Гэта першы крок да незалежнасьці. Палова суб'ектаў фэдэрацыі, якія былі донарамі, ня плацяць падаткаў. Дарэчы, з гэтага пачалася амэрыканская рэвалюцыя і вайна за незалежнасьць. Справа не ў сепаратысцкіх настроях губернатараў. Сама сытуацыя будзе прымушаць іх рухацца ў гэтым накірунку далей і далей. І Далёкі Ўсход будзе першым. Мы ня ведаем, як гэтыя кавалкі Расеі будуць кіравацца. Бацькамі Махно ці партыямі? Жыць у міры ці ваяваць? Гэта непазьбежны сцэнар разьвіцьця Расеі."

* * *

Усё больш відавочны распад псіхікі 67-гадовага прэзыдэнта. Ягоныя праціўнікі сьцьвярджаюць, што ў яго хвароба Альцгэймэра. Рэагуюць і замежныя палітыкі, прыглядаючыся да ягоных магчымых пераемнікаў.

* * *

22 кастрычніка Лукашэнка выступаў у Омску: „Я хачу, каб мы былі моцныя. Што б ні адбылося на тэрыторыі СССР, радзіма ў нас адна. Для нас усіх як Беларусь, так і Сібір — агульная Айчына."

* * *

Татарстан чакае гістарычных пераменаў. *Усетатарскі грамадзкі цэнтр* распрацаваў праект разьвіцьця і захаваньня татарскага народу. Сутнасьць праграмы ў стварэньні рэспублікі Ідэль-Урал. У яе склад увойдуць волжскія рэспублікі Чувашыя, Мардовія, Удмурція, Башкірыя, марыЭл, што месьцяцца на тэрыторыі былой Волжскай Булгарыі, *плянуецца стварыць фэдэрацыю або канфэдэрацыю,* незалежную энэргасыстэму. У месцах кампактнага пражываньня татараў будуць створаныя аўтаноміі з правам выхаду з РФ. У аўтаноміях татарская мова стане адзінай дзяржаўнай мовай. Татары — другая па велічыні нацыя ў РФ.

* * *

Міністар МУС РФ Сяргей Сьцяпашын канстатуе, што *ў Расеі адзначаецца рэзкі рост злачыннасьці.* За тры кварталы зарэгістравана больш за 1,9 млн. злачынстваў, зь іх 59 адсоткаў — цяжкія і асабліва цяжкія. За 9 месяцаў адбылося на 20% больш тэрарыстычных актаў і ў 1,5 разы больш выкраданьняў зброі і амуніцыі, чым за аналягічны перыяд летась. Ад эканамічных злачынстваў згубы для дзяржавы — 3,6 млрд. руб.

***Прэс-служба Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" (Валеры БУЙВАЛ)***



*Гародня.* *З гэтага месца ў 1410 годзе ваяры выпраўляліся на Грунвальд.*

## *THE ARREST OF ULADIMIR PLESCANKA*

***Declaration***

Lukashenka's regime in Belarus' continues to violate basic rights of individuals. Unjustified arrests and commitment to jails of the political opponents never cease. It is already two months since a known opponent of dictatorship in Viciebsk, ***Vladimir Plescanka***, is held behind bars. *Plescanka* was imprisoned under the pretext of alleged destruction of the monument of the Russian oppressor „generalissimos" Suvorov — commander of the Russian army against Kosciusko's uprising in Belarus' and Poland. This accusation was fabricated and the bust of Suvorov was found. The real reason for the arrest of Plescanka was his opposition to ethnocide and dictatorship.

Vladimir Plescanka, together with other well known resisters in Viciebsk, ***Barys Chamajda*** and ***Uras' Maroz*** are members of the *Belarusan Popular Front — a group called „Choice"*, which publishes semi-legal newspaper *„Choice"* and challenges Lukashenka's regime by means of open declaration of their position of resistance to official russification and dictatorship measures. The group *„Choice"* methodically arranged picketing and demonstrations under the slogans: *„We are for Democratic Belarus" and „Belarus' — our Fatherland, our Home, our Mother."* Special police units were arresting such groups on the spot, beat them up, then prosecuted them and jailed. But as soon as they were released from prison, they demonstrated their tenacity and resumed their position of resistance under their slogans.

The group *„Choice"* did not violate any of Lukashenka's laws. In a way, this group followed Gandhi's method, demonstrating their courage, dedication and perseverance. They were spiritual winners. Functionaries of the regime understood the situation, and they used extremely inhumane means to counteract their tenacity.

***Uras' Maroz*** was whipped to a half-dead condition for his use of the Belarusan language with a member of the special police. It took *Maroz* a long time to recuperate in the hospital. In the spring of this year serious threat to his life arose and *Uras' Maroz* was forced to leave Belarus'. He applied for asylum in the *Chech Republic*. Now the government authorities are focusing their attention on *Plescanka*, and are planning to destroy him in jail without a trial. The procedure for his demise is in place — *„Vladimir Plescanka has a weak heart"*. The next sacrifice will be ***Barys Chamajda and then others***.

*I am appealing to the human rights organizations in Europe and the United States to consider these facts, and address the issues of the gross violations of human rights in Belarus' : to counter-act in concrete terms the developed methodology of terror and torture applied to individuals whose only desire is to be free in their own country.*

***Vladimir Plescanka*** needs international attention and support. Plescanka, as well as other political prisoners should not be jailed because they believe in and demand freedom in all its forms: freedom of speech and expression, freedom to exercise individual values, freedom to respect ones language and ones country.

***Zianon PAZNIAK***
***Chairman Belarusan Popular Front „Adradzennie"***
*November 7, 1998, New York City*


**Беларускія Ведамасьці**

Беларускае выданьне

У супрацоўніцтве зь Беларускім Выдавецкім Таварыствам ў Амэрыцы
**Рэдакцыя: Зянон Пазьняк, Галіна Вашчанка**
**Адрас рэдакцыі: 02-017 Warszawa, Al. Jerozolimskie 125/127**
**тэл./факс: (+48 22) 628 76 73**